# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 12 (610)
Сьнежань 2016 г.


## Паважанае спадарства!




Разам з апошнім у гэтым годзе сьнежаньскім нумарам “Вестак і Паведамленьняў” кожны падпісчык атрымае таксама **каляндар Згуртаваньня “Пагоня” на 2017 год** на 28 бачынак. Каляндар выдадзены абмежаваным накладам, але калі вы жадаеце набыць дадатковыя асобнікі каляндара, альбо ня ёсьць падпісчыкам бюлетэня, але хацелі б мець такі каляндар, то яго можна замовіць, напісаўшы ў рэдакцыю на емэйл адрас ***viestki@mail.com*** альбо наведаўшы старонку ***e-krama.com***

Кошт аднаго асобніка з улікам паштовай перасылкі **$8**.

## Шаноўныя беларусы і іх сябры!

11-га сьнежня сёлета праекту **DZED BARADZED** спаўняецца адзін год! Зь любоўю і радасьцю запрашаем усіх адзначыць гэтую падзею на **Dzed Baradzed Birthday Party**!

Сольны канцэрт выбітнага і непаўторнага сьпевака Беларусі **ЛЯВОНА ВОЛЬСКАГА** стане галоўным падарункам нашым гасьцям. Лявон парадуе нас песьнямі з новага альбому і старымі гітамі.

Таксама для вас мы рыхтуем сьвяточныя конкурсы і прыемныя неспадзяванкі.

Каб пазьбегнуць камісіі і быць пэўным, што вам будзе зарэзэрвавана месца (бо колькасьцm гасьцей вечара абмежаваная), набывайце, калі ласка, рэгістрацыйныя квіткі (рэгістрацыя бясплатная).

Кошт уваходу на вечарыну з рэгістрацыйным квітком **$30** (абмежаваная колькасьць), без квітка **$40**.

Рэзэрвацыя сталоў па тэлефону **(212) 777-1157** (*умовы бара – мінімум дзьве замовы з чалавека за сталом)*.

Дзьверы адчыняюцца а **6-й** вечара **11-га сьнежня** ў **Drom** (Music Venue) па адрасу:

***85 Avenue A, New York, NY***

**Госьці павінны мець 21 год і пры сабе мець ідэнтыфікацыйны дамумэнт.**

Па дадатковую інфармацыю зьвяртайцеся на ***info@belarusus.com*** альбо тэлефануйце **(718) 604-1171**.

***Асобна дзякуем за падтрымку Беларуска-Амэрыканскаму Згуртаваньню “Пагоня”.***

*Канцэрты Лявона Вольскага таксама адбудуцца 12-га сьнежня ў Вашынгтоне і 17-га сьнежня ў Чыкага.*



# Лістападаўскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу 12 лістапада ў Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку сходу выступіў старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка і распавёў пра мэты і прынцыпы Згуртаваньня “Пагоня”, пра кірункі дзейнасьці. Ён таксама закрануў сёлетнія імпрэзы, такія як Гуканьне вясны, сьвяткаваньне 25-га Сакавіка, мітынг памяці на 30-я ўгодкі Чарнобыльскай аварыі, Купальле, Марш Паняволеных Народаў. Прамоўца заклікаў прысутных карыстацца з нагоды сустрэчаў зь землякамі, знаёміцца, навязваць кантакты, вырашаць свае праблемы і дапамагаць іншым. Выступоўца таксама адзначыў, што ў гэтым месяцы, 27 лістапада, адзначаецца Дзень Герояў – угодкі Слуцкага Збройнага Чыну, і каротка распавёў пра гэтую дату ў беларускім нацыянальным календары.

Затым слова ўзяла сп-ня Ганна Шарко, кіраўнічка праекту Dzed Baradzed і Фэйсбук-суполкі “Беларусы ЗША: Разам лягчэй”. Яна распавяла пра маючыя адбыцца канцэрты славутага музыкі Лявона Вольскага, што пройдуць у ЗША ў сьнежні, заклікала прыходзіць і падтрымаць музыку.

Наступным пунктам парадку дня сходу быў сэмінар экспэртаў па вучобе і працы ў ЗША, які ўжо ня першы раз праводзіцца Згуртаваньнем “Пагоня”. Першым выступіў сп. Алесь Тур. Ён вучыўся на эканаміста ў БДУ, але калі патрапіў у Амэрыку, пачынаў з працы прыбіральшчыка. Затым працаваў бармэнам і дормэнам, але вырашыў падацца на эканамічныя студыі ў Калюмбійскі ўнівэрсытэт. Там залічылі крэдыты за прадметы ў беларускім дыплёме, і атрымалася паступіць. Гэта, безумоўна, вельмі дарагая ўстанова, але пры ўсім гэтым цалкам рэальна вучыцца там і чалавеку бяз сродкаў. Такім чынам, кошт за год склаў 63 тыс. даляраў, але, адмовіўшыся ад мэдстрахоўкі й жытла пры ўнівэрсытэце, атрымалася зьнізіць кошт да 42 тыс. Затым былі пошукі фінансавай дапамогі. Частку коштаў пакрыла стыпэндыя, а частку – беспрацэнтовы крэдыт ад унівэрсытэту. Рэшта аплочваў праз крэдыт пад працэнты з камэрцыйнага банку. Давялося працаваць на двух працах і адначасна вучыцца, заняло ўсё тры з паловаю гады. Вельмі важнымі, часта вырашальнымі чыньнікамі зьяўляюцца стажыроўкі-інтэрнатуры ў кампаніях. Там прыглядаюцца да людзей, а пасьля могуць прапанаваць пасаду. Працу знайшоў праз паўгады пасьля заканчэньня, актыўны пошук склаў каля месяца. Першая праца была зьвязаная з *assets management*, але яна не спадабалася. Вырашаў паспрабаваць сябе ў *investment banking*, паспрабаваў – і знайшоў працу. Яна вельмі напружаная, час, фактычна, не нармаваны, але і аплочваецца добра, змог ужо выплаціць пазыку за вучобу.

Затым з інфармацыяй пра свой досьвед вучобы і працы выступіла спчня Аляксандра Раманенка. У Менску яна скончыла факультэт міжнародных адносінаў БДУ, а ў ЗША хацела атрымаць амэрыканскую юрыдычную адукацыю. Выбрала CUNY Law School, бо тады гэта здавалася больш прыймальным у сэнсе коштаў. На цяперашні розум лепей было б пераплаціць, але пайсьці ў прэстыжнейую школу – Калюмбію ці, напрыклад, ва ўнівэрсытэт Пэнсыльвэніі. Вучылася тры гады, потым здала Bar exam, цяпер працуе ў невялікай юрыдычнай фірме. Спэцыялізуецца пераважна па працоўным праве, па клясавых зысках – калі судовая справа заводзіцца ад імя групы людзей. Але юрыдычны рынак вельмі складаны, шмат яе аднакурсьнікаў яшчэ не знайшлі працу. Таму важную ролю мае прэстыж установы, знаёмствы, сувязі.

Наступнай выступіла Аляксандра Сахар. Яна прыехала таксама зь Менску, дзе вучылася на факультэце філязофіі й сацыяльных навукаў БДУ. Яе цікавалі мэдыя-студыі, мэдыя-мэнэджмэнт. Мела добрыя адзнакі й добрыя рэкамэндацыі з БДУ – і гэта дапамагло ўладкавацца ў ЗША. Яна прыехала ў Бостан і паступіла вучыцца, але там ёй не спадабалася, перавялася ў Нью-Ёрк у New School University. Ёй далі стыпэндыю, якая пакрыла палову з 80 тыс. за курс, рэшту плаціла праз студэнцкую пазыку. Працавала на трох працах падчас вучобы. Магістратуру скончыла за 2 гады, атрымала *research assistantship*. Дыплёмнай працай быў досьлед пра пошук сродкаў для незалежнага фільму (*fundraising for independent movie*). Шукала працу паўтары месяцы, знайшла яе ў рэклямнай кампаніі, а пасьля перайшла ў *start up*-кампанію.

Падчас гутаркі ўсе выступоўцы адказвалі на пытаньні прысутных і пагадзіліся адказваць на прыватныя пытаньні пасьля афіцыйнай часткі.

Затым слова ўзяла сп-ня Валянціна Якімовіч, сакратар Згуртаваньня “Пагоня”. Яна, з нагоды прайшоўшага ў мінулым месяцы дня народзінаў выбітнага беларускага паэта Анатоля Сыса, распавяла пра сваё знаёмства зь ім, пра тое, што менавіта Сыс быў асобаю, якая зрабіла зь яе сьведамую беларуску, падштурхнула да пераходу на беларускую мову, як было, дарэчы, і шмат з кім іншым, што сустрэлі на сваім жыцьцёвым шляху Анатоля Сыса. Сп-ня Якімовіч, якая, дарэчы, фундавала выданьне некалькіх зборнікаў паэзіі паэта, прачытала шэраг ягоных вершаў.

Затым, пасьля афіцыйнай часткі, сябры і госьці аддзелу маглі знаёміцца і працягваць калегаваньне пры сьціплых пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**



# Дональд Трамп і будучыня Амэрыкі

Абраньне мільярдэра Дональда Трампа на пасаду прэзыдэнта ЗША яшчэ доўга будзе асэнсоўвацца і пераасэнсоўвацца. Заведамы аўтсайдэр і асоба, што, здавалася, стаяла ўбаку ад палітыкі — ён прайшоў усе выпрабаваньні прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі. Насуперак бальшыні прагнозаў, культываванай мэдыямі варожасьці да яго, насуперак накатаным шляхам палітычнага істэблішмэнту Амэрыкі, ён перамог у барацьбе за найпрэстыжнейшую і найуплывовейшую пасаду ў сьвеце. Як і чаму такая нечаканая асоба прыйшла да кіраваньня адзінай сучаснай звышдзяржавай, яшчэ будуць напісаныя манаграфіі й абароненыя дысэртацыі. Сёньня ж з пэўнасьцю можна сказаць, што гэта быў рэфэрэндум "аб спадчыне Барака Абамы", як сам ён выказаўся аб выбарах-2016, маючы на ўвеце, натуральна, зусім іншы вынік. Беручы шырэй, гэта быў рэфэрэндум аб псэўдалібэральнай палітыцы амэрыканскіх элітаў, якія сфармаваліся ў выніку зьменаў, што адбыліся ў другой палове 20-га стагодзьдзя.

Абама, прыйшоўшы да ўлады, заявіў, што ажыцьцёвіць "фундамэнтальную зьмену Амэрыкі". Між тым фундамэнтальная зьмена адбылася, калі левалібэральныя, марксыстоўкія мысьляры як Г. Маркузэ і "папутчыкі" як Джон Роўлз, поруч з левымі палітыкамі кшталту Джорджа Макговэрна і Тэда Кенэды пачалі праектаваць сацыяльную ўтопію, у якой усім будзе гарантаваная абсалютная роўнасьць і сацыяльная справядлівасьць. Крок за крокам гэтая прыгожая фразэалёгія, званая цяпер прагрэсіўніцкай, заваёўвала мазгі й сэрцы. Яе інтэлектуальныя апанэнты выкрывался як "рэакцыянэры" і "цемрашалы", пазьней — як "фашысты", а цяпер найчасьцей — як "расісты" й "крывадушнікі". Часткаю сымболю веры новапаўсталых ратаўнікоў чалавецтва стала нянавісьць да амэрыканскага індывідуалізму, капіталістычнага прадпрыймальніцтва, вядучай ролі заходніх дэмакратыяў у сьвеце.

Праз некалькі пакаленьняў амаль усе ўстановы вышэйшай адукацыі сталі бастыёнамі прагрэсіўніцкага фабрыкаваньня новых і новых пакаленьняў прафэсараў, журналістаў, мэдыя-мэнэджэраў, кінарэжысэраў, а галоўнае — палітыкаў. Абама, які паставіў задачай абмежаваць уплыў і моц Амэрыкі, стаў кульмінацыяй гэтага працэсу. Таму вынік сёлетніх выбараў стаўся шокавым для паловы краіны — менавіта той паловы, што прайшла праз прамываньне мазгоў у каледжах або ў нейкі спосаб стала зьвязаная з Дэмакратычнай партыяй. Здавалася б, амаль усе мазгі прамытыя, амаль усе камандныя вышыні занятыя, амаль усе мэдыі ў кішэні, але што нарабілася — "маем Трампа!" Рэакцыя працоўных масаў, аб якіх так крывянілі сэрцы прагрэсіўнікаў восем год прагрэсіўніцтва і "лідэрства ззаду" адміністрацыі Абамы, агаломшыла і выклікала вінавачаньні ў "расізме" і "рэакцыйнасьці" белых пралетароў. Нельга сказаць, што Рэспубліканская партыя выглядае нашмат лепей у пляне адлюстраваньня інтарэсаў краіны і сувязі з шараговымі выбарцамі. Структуры абедзьвух партыяў абярнуліся ў прафэсійных гандляроў папулізмам, а рэспубліканцы амаль забыліся на свае традыцыі партыі Лінкальна і Рэйгана.

І вось воляй выпадку, або воляй лёсу, або воляй Божай адбылася флюктуацыя. Да ўлады прыйшоў чалавек, які ў грошах зацікаўлены крыху менш, чым сярэднестатыстычны палітык. Чалавек грэшны, з усімі асаблівасьцямі здаровага гетэрасэксуальнага мужчыны, пагляды ягога на палітыку і гендэр сфармаваліся год так 50 таму, і да таго ж нядужа абазнаны ў шчыгулах міжнароднай палітыкі й палітычнай карэктнасьці. Але галоўнае — Трамп выступае як прадстаўнік клясы прадпрыймальнікаў-капіталістаў, што імкнецца вярнуць у Амэрыку працоўныя месцы і падвысіць эканамічны рост, зьнізіўшы падаткі й абмежаваўшы ангажаванасьць дзяржавы ў рэгуляваньне эканомікі й сацыяльных працэсаў.

Капіталісты часта не найлепшыя прапагандысты капіталізму — гэтага найвыбітнага вынаходніцтва ў чалавечай гісторыі, праз якое прага да ўласнага авансаваньня мабілізуе мысьленьне, волю і паразуменьне асобаў і групаў у грамадстве, і праз гэта рухае грамадства наперад у сэнсе эканамічным, сацыяльным і маральным. Але знайшліся разумнікі, якія палічылі гэты рух наперад надта павольным, ды і ня рухам, а рабаваньнем і абдурваньнем "народных масаў". Здавалася б, дзесяткі мільёнаў ахвяраў тых "разумнікаў" маглі б ужо нечаму навучыць цяперашніх ахвочых "забраць і падзяліць", кшталту левакоў Бэрні Сандарса і Элізабэт Ўорэн. Але не, гэта героі цяперашніх студэнтаў, а вось Трамп, асоба, што з бацькавага мільёну зрабіла мільярды, працаўладкоўваючы дзясяткі тысяч людзей — для іх антыгерой.

Не ідэалізуючы Дональда Трампа, варта адзначыць, што чалавек, які стаіць убаку ад асноўных палітычных структураў і ня ёсьць зацікаўлены наўпрост пераўтварыць пасаду прэзыдэнта ва ўласнае карыта, у чым выбарцы падазравалі Гілары Клінтан, няўдалую апанэнтку Трампа, здольны прынесьці сапраўды дэмакратычныя і скіраваныя на шараговага грамадзяніна пазытыўныя зьмены. Але, як бізнэсмэн, Трамп разумее, калі не рацыянальна, дык сэрцам, што "бізнэсам Амэрыкі ёсьць бізнэс", стварэньне вартасьцяў, а не пераразьмеркаваньне іх, пашырэньне амэрыканскай моцы й уплываў, а не абмежаваньне іх, і захаваньне амэрыканскіх традыцыяў, а не замена іх сумніўнымі тэорыямі мультыкультуралізму і паліткарэктнасьці. Яшчэ некалькі пакаленьняў з прамытымі мазгамі і працэс пераўтварэньня амэрыканцаў у саўкоў, што азіраюцца і спадзяюцца на дзяржаву па ўсіх жыцьцёвых акалічнасьцях, зробіцца незваротным, свабода слова будзе адабраная нават ад невялічкай купкі дысыдэнтаў. І тут шмат залежыць ад тых, што стаяць вакол Трампа, ад каманды, якую яму ўдасца, а можа і ня ўдасца скіраваць належным чынам на вырашэньне праблемаў краіны і на яе далейшае разьвіцьцё, каб зрабіць яе зноў тым сьветлым горадам на высокім узгорку, пра які казаў некалі прэзыдэнт Рэйган. Можна сказаць адно — Трамп не дасягне гэтага аднаасобна. Грамадства сёньня падзелена роўна напалову, краіна як ніколі разьяднаная. Без кааптацыі ўсіх патрыятычных амэрыканцаў асягненьне высокіх мэтаў будзе цяжкай і наўрад ці рэальнай задачай.

Таму на парадку дня стаіць справа дэмантажу антыамэрыканскіх ідэяў марксізму, "роўнасьці прыбыткаў", "пазытыўнай дыскрымінацыі", "мультыкультуралізму", "сацыяльнай справядлівасьці", якія спарадзілі культурны і маральны рэлятывізм, легалізацыю наркотыкаў, сацыяльнае паразітаваньне, антыпатрыятызм. На парадку дня стаіць вяртаньне да традыцыйных амэрыканскіх каштоўнасьцяў самакіраваньня і грамадзкіх свабодаў, сумленнай працы, беражлівасьці, шанаваньня законаў, павагі да сваёй зямлі, веры ў лепшую будучыню для сябе і дзяцей.

Гісторыя дала Амэрыцы шанец у выглядзе недасканалага, часам камічнага, часам нягеглага і некагерэнтнага, але разам з тым зразумелага і пазбаўленага палітычнай лакіроўкі чалавека, што стане наступным 45-м прэзыдэнтам. Ад народу Амэрыкі, ня менш чым ад яго самога, залежыць, ці будзе гэты шанец скарыстаны. Адно можна сказаць з пэўнасьцю — на гэты шанец, будзе абапёртая будучыня Злучаных Штатаў Амэрыкі.

**Віталь ЗАЙКА**

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Вярнуць веліч Амэрыкі

Выбар Трампа на пасаду прэзыдэнта ЗША для мяне гэта клясычны момант – “а я не казаў?”. Казаў, казаў. А нават пісаў пра гэта ў красавіцкім нумары “Вестак і Паведамленьняў”, тады калі Трамп ня быў яшчэ нават кандыдатам ад рэспубліканскай партыі, а амэрыканскі істэблішмэнт з прадажнымі, як канчаткова выявілася падчас выбараў, CNN, NBC і інш. такую магчымасьць жорстка высьмейвалі. Але атрымалася як у славутым выказваньні Ганьдзі: “Спачатку яны цябе ігнаруюць, пасьля зь цябе сьмяюцца, пасьля змагаюцца з табою, а пасьля ты перамагаеш”. Апрача прадказаньня перамогі Трампа, каб ня быць галаслоўным, я яшчэ паставіў на гэтую перамогу свае грошы. Bet-at-home плаціла за такую стаўку 4:1.



*Прыхільнікі Г. Клінтан плачуць, пачуўшы вынік выбараў*

У Беларусі ўсе камэнтатары і журналісты ўпэўнена прадказвалі перамогу Клінтаніхі. Нажаль, незалежная беларуская прэса цалкам пазбаўленая незалежнай аналітыкі, паколькі ўсе пляцоўкі залежаць ад глябальнай фінансавай падтрымкі карпарацыяў-мэдыяголдынгаў-фондаў. Журналісты ў гэтых канторах перастрахоўваюцца, бо добра адчуваюць, у які бок дзьме вецер. Таму цягам выбарчай кампаніі нашыя “незалежныя” СМІ ўвесь час перадрукоўвалі падманныя апытаньні, фактычна перакладалі на беларускую прадказаньні сваіх заходніх калегаў. Частка іхнай публікі наіўна спадзявалася, што гэтая параза стане ім шокавай тэрапіяй, што яны пакаюцца і прызнаюць памылковасьць сваіх прапагандысцкіх фармулёвак. Ды дзе там. Прасьцей перакінуць віну на фашыстоўскія настроі ўнутры амэрыканскага грамадзтва і працягваць дзейнічаць па старому шаблёну, па пройгрышных загатоўках.

Тое, што людзі, як у нас, так і ў Амэрыцы, пачынаюць адварочвацца ад мэйнстрымных, квазідэмакратычных мэдыяў ужо відавочна. Можна сказаць, што яны асноўная ахвяра гэтай прэзыдэнцкай гонкі. Інфармацыя пра ўцечку пытаньняў перад дэбатамі на карысьць Клінтаніхі, падтасоўка апытаньняў у аспэкце выбару дасьледуемай аўдыторыі, раздрукоўка загатоўленых вокладак часапісаў за дзень да выбараў, тоны бруду і нагавораў, вылітых на контркандыдата і шмат іншага не дасьць гэтым плятформам вярнуць свае даўнейшыя пазыцыі і значэньне. Пачынаецца сапраўдны рэнэсанс для незалежных ютʼюб камэнтатараў, тыпу infowars.com, якія ўжо сёньня, як бачна па выніку прэзыдэнцкіх выбараў, карыстаюцца падтрымкай мільённых аўдыторыяў. Прыйшоў час зьместу, а ня формы.

**Віталь ВОРАНАЎ**

### Уплаты ў Згуртаваньне Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:

А. Аверын ....................60
І. Акулаў ......................60
А. Андрэеў ....................60
В. Канапацкая ..............60
А. Касьцюк ...................60
А. Крыж ........................60
Т. Лазовік .....................60
В. Ненартовіч ...............60
Д. Талочка ....................60

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка** *Viktar Yedzinovich*.

*Паважаныя* ***Жана Карнілава, Вераніка Сьпеталюн, Дзьмітры Харытончык,*** *калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**
адбудзецца ў суботу **17-га сьнежня 2016 года** на Мангэтане ў Доме Маракоў па адрасу:
***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі* ***L, N, Q, R, W, 4, 5, 6*** *да прыпынка* ***Union Square****.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад* ***Union Square*** *па* ***15-й вуліцы*** *на скрыжаваньні з* ***Irving Place****.*

Заля сходаў на 2-м паверсе. Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў,ладжаных арганізацыяй, можна даведацца, наведаўшы сайт* ***pahonia.com***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :

А. Аверын ....................30
І. Акулаў ......................30
А. Андрэеў ....................30
В. Бітус ........................30
С. Гехт .........................30
Н. і С. Дудар ..................30
В. Канапацкая ..............30
А. Касьцюк ...................30
А. Крыж ........................30
Т. Лазовік .....................30
І. Мілеўскі .....................30
В. Ненартовіч ...............30
Д. Талочка ....................30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”* ***Viktar Yedzinovich****.*